# УзГорак

№ 2 - 14 лютага 2003 г. - Газета Грамадскіх арганізацый і ініцыятыў.

# Рок на калядзы

**21 сьнежня ў залі Раённага дома культуры прайшоў другі музычны фэст "Рок на калядзы", у якім прынялі ўдзел гурты з Воршы, Менску, Горадні, Слуцку, Кажан-Гарадку Берасьцейскай вобласьці, Жодзіна і ўласна з Горак.**

Фэст задумваўся калісьці сябрамі Задзіночаньня Беларусіх Студэнтаў як частка праграмы "Грамадзтва пачынаецца зь цябе!" па прыцягненьню моладзі Горак у грамадзкія аб'яднаньні. Першы раз ён ладзіўся 25-га сьнежня 2001 года. У канцэрце тады ўзяло ўдзел 8 гуртоў з Магілёва, Воршы, Горак і нават Слуцку.

Чарговы фэст атрымаўся больш разнастайным як па музычным зьмесьце, гэтак і па колькасьці рэгіёнаў, адкуль прыехалі музыкі.

Як і ў мінулы раз, гурты ня проста выступалі, але й спаборнічалі ў розных намінацыях. Так, лепшымі рокавымі вакалістамі аказаліся сьпевакі з "Рахісу" (Менск), якія, дарэчы, выконвалі ўсё ў акустычным варыянце. Лепшым гуртом, як і трэ было чакаць, аказаўся горацкі гурт "Сьцяг", яму ж дасталіся ўзнагароды за самы "бэкавы" вакал і за лепшага сола-гітарыста. Аршанскі "Корд", які ў 2001 годзе так і не даехаў да Горак, а ў гэты раз зьявіўся новым-поўным складам, атрымаў дыплём за самага-самага бас-гітарыста. Лепшы жаночы вакал - самая прывабная намінацыя фэсту была прысуджаная дзяўчыне Яне з Горадні. Астатнія перамогі і ня ўспомніш!

Цікавых момантаў на канцэрце было ў асноўным два. Першы - нечаканае зьяўленьне скандальнага гарадзенскага гурта "Deviation". Хлопцы-анархі паабяцаўшыся падарыць кветкі міліцыянтам і ахоўнікам парадку, завялі залю так, што моладзь адпускаць са сцэны іх ніяк не хацела і... нарвалася на самую страшную песьню гурта (здагадайцеся на якую). Таксама вызначыўся "Корд", які не забыўся на сьвята (каляды ўсё ж такі) і раздаў усім гледачам віншавальныя паштоўкі.

Канцэрт цягнуўся болей за тры гадзіны і акрамя добрага ўражаньня пакінуў шмат сяброўскіх кантактаў. Горацкія дзяўчынкі пазнаёміліся з мужнымі палескімі хлопцамі з Кажан-Гарадку, а таксама зь вясёлымі й бесклапотнымі малойцамі з Жодзіна (лепшая частка чалавецтва нават наведвала Жодзіна на Новы год, вось так бывае). Нашыя мужыкі таксама не засталіся ў баку, таму цяпер "лепшаму жаночаму вакалу" ў Горадні не схавацца.

А пакуль уражаньні ад канцэрту яшчэ ня сьцёрліся, нягледзячы на ўсе падзеі апошняга часу, арганізатары фэсту ўжо зараз ламаюць галаву наконт чарговых "Рок-калядаў".

***Алесь Валошка.***

***Аб поглядзе на гэтую падзею нашых сталічных калегаў чытайце на старонцы 2.***



# КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў СТАЛІЦЫ

Напрыканцы студзеня ў Мінску прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Развіцце мясцовай супольнасці, ў якой абрала ўдзел і дэлегацыя Горак. Канферэнцыя праходзіла пад патранажам Праграмы Партнерства Альянса Каўнтэрпарт на Беларусі. Гэтая праграма выконваецца нашымі заходнімі партнерамі ў адпаведнасці з пгадненнем паміж урадамі Беларусі і ЗША.

На шматлікіх паседжаннях удзельнікі канферэнцыі, сярод якіх былі як прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, так і мясцовай улады, падводзілі вынікі сваеі сумеснай працы па развіццю грамадскага сектара, выяўленню і вырашэнню мясцовых праблемаў. Кожны быў гатовы падзяліцца ўласным досведам, набыць новыя веды, павучыцца на вопыце калег. У прыватнасці, аб развіцці грамадскіх арганізацый на Украіне, вельмі цікава і артыстычна распавяла каардынатар праграм Альянса ў гэтай дзяржаве А.Ходас.

На разнастайных паседжаннях ўдзельнікі канферэнцыі абмяркоўвалі пытанні грамадзянскай адукацыі, прыцягнення людзей да ўдзелу ў грамадскім жыцці сваёго рэгіёна, развіцця сацыяльнага прадпрыймальніцтва.

Былі таксама разгледжаны розныя аспекты стварэння ў рэгіёнах Фондаў развіцця мясцовай супольнасці. Нагадаем, што намаганні па арганізацыі працы падобных дабрачынных фарміраванняў на Беларусі пачаліся зусім нядаўна, хаця першы такі фонд узнік у ЗША яшчэ ў 1914 годзе.

Давялося паўдзельнічаць і ў ток-шоу, якое здымала адна з рэгіянальных тэлекампаній. Тэмамі яго былі жаночыя, маладзевыя і сямейныя праблемы. Нажаль, мы пакуль не маем касеты з запісам гэтага шоу, але спадзяемся ў хуткім часе атрымаць яе ад нашых партнёраў.

***Іван Марозаў.***





***На працягу двух дзён удзельнікі Канферэнцыі плённа працавалі, а потым нядрэнна адпачылі.***

***Фота Д. Станюты.***




Падрыхтаваны да друку і, магчыма, хутка ўбачыць чытача чарговы зборнік вершаў горацкай паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніны Дзмітрыеўны Кавалёвай «Зов любві». Выхад гэтага зборніка прымеркаваны 25-годдзю творчай дзейнасці паэтэсы. Ад простых слоў аб прыродзе, аб роднай зямлі, яна ішла да вершаў аб сэнсе жыцця, пазнання свету, да высокай духоўнасці. Гэта ўжо яе восьмы па ліку вершаваны зборнік. Складаецца ён з трох раздзелаў. Першы - «Зорьки над Горками», уключае вершы аб горацкім краі, гісторыі, падзеях. Раздзел «Темнолесская округа» прысвечаны мясцінам дзяцінства і юнацтва паэтэсы, яе «маленькай радзіме». Трэці раздзел даволі незвычайны для паэтэсы, якая заўсёды лічылася рускамоўнай. І раптам «Матчыны песні», цэлы беларускамоўны раздзел. Нягледзечы на рускамоўнае акружэнне Ніна Дзмітрыеўна спрабуе пісаць па-беларуску, таму як лічыць:

Мо душа ў родным слове?
Колькі б вершаў ты не склаў,
Не сказаў на роднай мове -
Аб галоўным не сказаў.

На жаль спонсар ў гэтага выдання пакуль адзін. Гэта Горацкі райвыканкам, які па просьбе жаночай арганізацыі «Любава» пералічыў трыста тысяч рублёў на гэта выданне. Але гэтых грошай не хапае нават на сто экзэмпляраў. А лісты, накіраваныя Горацкім музеем арганізацыям горада з просьбай аказаць хоць невялікую фінансавую дапамогу засталіся пакуль без адказу.

***Святлана Скаромная***

# Хотите ли Вы работать мамой и папой?

**В нашей стране несколько тысяч детей живут без материнской ласки.**

Если Ваше сердце полно любви,
Если Вы можете ею поделиться,
Можете создать в доме условия для этого ребенка и не боитесь трудностей воспитания человечка, уже перенесшего горе, то приглашаем Вас работать приемными родителями.

Вы не останетесь один на один с трудностями.

Специалисты Управления образования Горецкого райисполкома всегда будут готовы придти на помощь.

***За справками обращайтесь в органы опеки и попечительства Горецкого райисполкома по адресу: г.Горки, ул.Якубовского, 9, 4 этаж, каб. N72. Тел.21906***

# Пачуццё гаспадара

У дзевяностыя гады мінулага стагоддзя дастаткова папулярнымі сярод грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллевых умоў, сталі жыллева-будаўнічыя кааператывы. Дзяржава ў той час горш-лепш, але падтрымлівала грамадзян, якія намагаліся пабудаваць сабе кватэру за ўласныя сродкі, таму не дзіўна, што падобныя суполкі ўзнікалі паўсюду.

Нажаль, часцяком здаралася, што калі дом пабудаваны, то актыўнасць яго жыхароў з гэтым сыходзіла на нет. У той жа час, жыллевы кааператыў з'яўляецца своеасаблівым органам тэрытарыяльнага самакіравання, дзе людзі, праявіўшы ініцыятыву, могуць самі ўплываць на вырашэнне тых ці іншых праблем.

Адным з прыкладаў такой грамадзянскай актыўнасці з'яўляецца кааператыўны дом по вул. Будаўнікоў, 3.

Як расказаў нам яго старшыня Аляксандр Шарстнеў, у іх доме зараз пражывае 215 чалавек. Сумеснымі намаганнямі абсталявана комната для сходаў, устаноўлены тэнісны стол для падлеткаў, якія самі падтрымліваюць парадак у памяшканні. Людзі рэгулярна выходзяць на суботнікі па добраўпарадкаванню тэрыторыі. Дзякуючы ўстаноўцы лічыльніка цяпла, сталі эканоміць каля паловы сродкаў пры аплаце за ацяпленне кватэр. Здолелі разабрацца і ў зямельным пытанні. Раней кааператыў плаціў падаткі за ўсю тэрыторыю, якая прылягае да дома. Заглянулі ў Закон - аказалася, што ў адпаведнасці з яго патрабаваннямі, плаціць трэба толькі за тую плошчу, што займае сам будынак. Зноў эканомія.

Зараз старшыню непакоіць яшчэ адна праблема. Бываюць выпадкі, калі члены кааператыва, "скінуўшыся ў шапку" наймаюць людзей для выканання нейкай работы (напрыклад, бухгалтара, альбо дворніка). У гэтым выпадку, з выплачаных такім работнікам грошай зноў бярэцца падаходны падатак. Але ж яны збіраюцца і плоцяцца людзмі з уласнай зарплаты, якая ўжо аднойчы тым жа падаткам абкладалася!

На погляд Аляксандра, гэтая сітуацыя выглядае не зусім лагічнай і таму ен намераны больш дасканала вывучыць адпаведную частку заканадаўства і пры неабходнасці ўнесці прапновы па яго змяненню.

# У імя росквіту краіны – песнярам беларускай зямлі

Сёння, маючы развітую беларускую літаратуру, мы з гонарам гаворым пра тых, хто стаяў ля яе вытокаў, хто праславіў народ сваёй песняй. Да сусветных вышынь першымі ўзнялі беларускую літаратуру Янка Купала і Якуб Колас — бессмяротныя песняры народнай долі. У шматгалосым хоры літаратур свету яркае і вобразнае, глыбокае і праўдзівае іх паэтычнае слова раскрыла невычарпальныя скарбы душы беларускага народа.

Пра песняроў беларускай зямлі расказала выстава, якая была разгорнута ў Горках, ў каціннай галярэі.

Дзе вытокі песні Купалы і Коласа? Чаму беларускі народ усхвалявана нясе і сёння яе у сваім сэрцы? Ці не таму, што гэтая шчырая песня злілася з усімі пачуццямі і думамі беларусаў? Такія пытанні ставяць перад сабой беларусы і адказваюць на іх сваім паразуменнем, сваімі творамі.

Горацкія мастакі і майстрыхі дэкаратыўна — прыкладнога мастацтва стварылі з любоўю незабыўныя вобразы паэтаў і адлюстравалі іх паэтычныя творы.

Літаратурная спадчына песняроў — узор магутнага і яскравага таленту, выражэнне высокай і чыстай любві да радзімы, да чалавека і яго працы. «Жняя»,«Гусляр«і партрэт Янкі Купалы-творы мастацкай літаратуры, якія выканала Вольга Фёдараўна Кучына з народнага аматарскага аб'яднання «Мастацтва«і зробленыяны яны спецыяльна да святочнай даты у тэхніцы аплікацыя з тканіны з вышыўкай.

Гэта вабны і дзівосны свет, героі якога становяцца спадарожнікамі ўсё новых і новых пакаленняў беларускіх чытачоў.

Горацкія майстрыхі з народнага аб, яднання «Мастацтва» Л.В. Шыпіна, Н.Ф. Баранава, Р.С. Ануфрыева, З.А. Жарскаая, Р.Р. Малярова, А.П. Аўраменка і мастакі з гэтага аб"яднання Л.А. Аўраменка, А.М. Плоткін, В.М. Дыдзікаў.

Творы, што склалі Купала і Колас жывуць разам з намі, яны заўсёды выклікалі да жыцця, натхнялі новае пакаленне паэтаў і пісьменнікаў, якія панясьлі сваё палымянае слова па дарогах сучаснасці, каб праўдзіва і натхнёна расказаць аб родным краі, яго мужным, шчодрым і працавітым народзе.

17 снежня у Горках стала Купала-Коласаўскім днём. Песняры беларускай зямлі некалі наведвалі горацкі край, мелі тут сяброў, сустракаліся з аматарамі літаратуры. Для ўвекавечання іх памяці на нашай зямлі каля бібліятэкі БДГСГА адкрыты мемарыяльны знак, а на трэцім вучэбным корпусе ВНУ- мемарыяльная дошка. У гэты ж дзень адбылася літаратурна — музычная вечарына, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры.

***Валянціна Белавусава, старшыня раённай філіі ТБМ***

працяг пачатак на старонцы N 1.

# Рок на каляды

## Менскі погляд.

***Двадцаць першага сьнежня 2002г у г. Горках Магілёўскай вобласьці прайшоў музычны фэст «Рок на Калядьі»,***

арганізаваны мясцовай суполкай ЗБС. Фэст штогадовы, у гэтым годзе адбываецца другі раз. На сцэну былі запрошаныя гурты з розных кутмкоў Беларусі, але што файна, перавага была за маладымі рок-музыкамі. DEVIATION, ДЭКАДА, КОРД, ЦЕНЬ, СЬЦЯГ, РАХІС, NORMAL LIMIT, MURDERED FAITH, УСЁ І НІЧОГА... «Рок на Калядьі» ня толькі дае магчымасьць адарвацца прыхільнікам року, але й паспаборнічаць гуртам-удзельнікам. Ітак, намінацыя - гурт:

самы лепшы бубнач - DEVIATION, самы басовы бас-гітарыст - КОРД, самы сольны сола-гітарыс - СЬЦЯГ, самы не сольны гітарыст - ЦЕНЬ, самы бэкавы бэк-вакал - СЬЦЯГ, самы жаночы вакал - NORMAL LIMIT, самы рокавы рок-вакал - РАХІС, лепшы рок-гурт - СЬЦЯГ.

Прапануем вам артыкул Ганны Красновай аб гэтых падзеях.

Як ўсё пачыналася? Ужо ў Менску ў жудасна халоднай і няўтульнай электрацыі выпадкова сустрэліся са знакамітым гарадзенскім гуртом «Deviation». А ўжо пасьля Воршы на шляху да Горак уся электрацыя, як тыя зайчыкі ў трамвайчыку, была напоўненая гітарамі, рок- і бэк-вакалам і, канешне, музыкамі-гаспадарамі ўсяго гэтага дабра!

Сам канцэрт адбываўся ў невялічкім горадзе Горкі Магілёўскай вобласьці і доўжыўся, напэўна, гадзіны тры.

Вось, што значыць беларускія студэнты: так упэўнена скакалі і сьпявалі нават пад песьні, што чулі ўпершыню!

Сабраліся тут прадстаўнікі як рознага накірунку року, так і з розных куткоў нашай краіны. Проста ўражваючым быў выхад на сцэну палескага, дакладней, кажангарадоцкага (Кажан-гарадок - вёска недалёка ад г. Лунінца) гурта «Цень». Дзяўчаты проста зіхацелі ад салісmа Віталя Каратыша, яго прывітальнага позірку і ўсьмешкі. Песьні піша, ды і сьпявае іх сам, але з гітарамі дапамагаюць юныя таленавітыя хлопчыкі. Вось і атрымаўся ён «Самым не сольным гітарыстам». Менскі гурт «Рахіс», нягледзячы на стомленасьць пасьля засьнежанай і доўгай дарогі, усёй шчырасьцю сваіх песень і адметным вакалам пранікнуў у сэрцы слухачоў. Ім і была прысуджана намінацыя «Самы рокавы рок-вакал».

Але па ўсім было зразумела, што горацкі гурт «Сьцяг» проста зорка мясцовага музычнага жыцьця. Ён, дарэчы, і стаў пераможцам, а ў падарунак атрымаў неапісальна-файнага глінянага каляднага рок-казла! Карацей цуд атрымаўся! Віншую ўсіх ўдзельнікаў і пераможцаў з такім сьвятам у рокавым жыцьці. Выказваю вялікую ўдзячнасьць арганізатарам у асобе горацкай суполкі ЗБС у стварэньні такога падарунка на Каляды. Бачна, што рок на Беларусі жыве, развіваецца

паводле WWW.bsa.org.by

# "Калядныя цуды" у Горках

Напярэдадні Новага года акцыю пад такой назвай правялі мясцовая жаночая грамадская арганізацыя "Любава" і раеннае аддзяленне маладзевай арганізацыі "Грамадзянскі форум", у якое ўваходзяць студэнты Беларускай сельгасакадэміі

На працягу трох дзен жанчыны, для якіх гэта ўжо не першая такая акцыя, і моладзь віншавалі з надыходзячым святам дзетак з малазабяспечаных сем'яў. Пабывалі самадзейныя Дзед Мароз і Снягурка ў сямейным дзіцячым доме Палявых, дзе выхоўваюцца сямёра дзяцей. Завіталі яны і ў раенную бальніцу. Акрамя хворых дзетак, там зараз часова жывуць некалькі малышоў, якіх органы ўлады вымушаны былі забраць ад гора-бацькоў, і зараз афармляюць дакументы на пазбаўленне апошніх бацькоўскіх правоў. Яшчэ ў адной сям'і, якая жыве ў інтэрнаце, выхоўваюцца пяцёра - трое сваіх і двое прыёмных дзетак, чые бацькі трагічна загінулі.



Нягледзячы на сесію, студэнты знаходзілі час, каб адшукаць спонсараў, згодных зрабіць навагоднія падарункі, падрыхтаваць цікавую забаўляльную праграму. Касцюмы для гэтага шыліся таксама іх рукамі, нават па начах - часу на ўсе не хапала. Можна казаць, дадатковы экзамен - на чалавечнасць - юнакі і дзяўчаты здалі селета на "выдатна".

Не засталіся ў баку і мясцовыя ўлады. Празнаўшы, што ў першы дзень дабрачынцы ходзяць па горадзе пешшу, райвыканкам прадаставіў аўтамабіль, што дазволіла значна пашырыць тэрыторыю абхода і колькасць наведаных дзяцей.

**Здаецца, што ўсе задаволеныя аднолькава - і дзед Мароз са снягуркай, і іх маленькія сябры.**



Добрага слова заслугоўваюць і мясцовыя прадпрыймальнікі. Не першы ўжо раз дапамагаюць грамадскім арганізацыям горада Аляксандр і Зінаіда Касцюшкіны, Юрый і Наталля Суніцыны, Самвел Грыгаран. Супольнымі намаганнямі гэтыя нераўнадушныя людзі зрабілі для больш як паўсотні горацкіх дзетак сапраўднае свята, якое надоўга застанецца ў іх памяці.

***Іван Марозаў.***

# Слет волонтеров

***В наше динамичное время трудно добиться чего-либо в одиночку. Легче осуществить задуманное вместе.***

В конце декабря минувшего года в помещении Центра социального обслуживания населения проводился второй районный фестиваль волонтеров «Творить добро». Как всегда, в его подготовке и проведении участвовало Общественное объединение «Надежда», одной из основных целей которого является развитие в районе движения милосердия, формирование в обществе нравственно-эстетических традиций.

Все восемь команд-участниц, представлявших школы района и Горецкое педучилище, подготовили интересные материалы о своей работе: со вкусом оформленные альбомы, фотогазеты. Каждая команда продемонстрировала свою визитную карточку в музыкальной, танцевальной, поэтической форме.

Лауреатами стали команды из МШКN1, Педучилища, Каменской школы, Гимназии. Лучшими волонтерами жюри



**На фестивале волонтерам приходилось показывать все на что способны. Фото из архива ОО «Надежда»**

признало Веронику Тишину из первой школы и Евгения Лашука, представлявшего Педучилище. Всем победителям были вручены подарки и дипломы.

Своим опытом и мудрыми советами с ребятами поделилась Светлана Гавриловна Панфилова, председатель клуба «Мудрость», пожелавшая им «Держать свои сердца открытыми для добра».

Душевным и поэтичным было выступление волонтера А.Ф. Павлюченковой, в исполнении которой прозвучала песня. Самые нежные и добрые слова хочется высказать и в адрес Ольги Селивестровны Матьковой, которая, несмотря на свой преклонный возраст, много лет безвозмездно помогает людям и словом и делом.

Дорогие друзья! Вступайте в ряды волонтеров! Приобщайтесь к этому благородному делу. Поселите идею добра в ваших душах, которые смогут откликнуться на все, что происходит рядом, или в самом отдаленном уголке нашей планеты. Сделаем добро активным!

***Лидия Белехова.***

## Общественная инициатива «Горецкий Общественный клуб «УзГорак»

Образован в ноябре 2001 года представителями общественных организаций и инициатив г.Горки при содействии Горецкого райисполкома и Программы партнерства Альянса Каунтерпарт, действующей на территории Беларуси в соответствии с Соглашением между Правительством США и Правительством РБ от 18.07.1996 г.

**Цель образования Общественного клуба «УзГорак»**

Повышение роли и влияния общественных организаций и инициатив Горецкого региона, объединение их потенциала в выявлении и решении местных молодежных, экологических, женских, детских, социальных, культурных и других проблем.

**Клиенты (*для кого работает клуб*)**

- общественные организации и инициативы,
- госструктуры,
- предприниматели,
- население.

**Услуги (*что делаем*)**

- информационные,
- образовательно-просветительские,
- правовые (методическая и иная помощь),
- выявление местных проблем и поиск путей их решения
- содействие партнерству и поддержка новых инициатив

**Принципы работы клуба**

- открытость к сотрудничеству,
- информационная прозрачность,
- деятельность клуба несовместима с политической и религиозной агитацией,
- добровольность участия,
- доброжелательность,
- равенство голосов (идей),
- коллегиальность в принятии решений.

# Дабрата, які ў цябе колер

31 студзеня ў бібліятэцы сельгасакадэміі прайшло ўрачыстае паседжанне творчай інтэлігенцыі, прысвечанае 65-й гадавіне з дня нараджэння таленавітай беларускай паэтэсы Нэлі Іванаўны Тулупавай (Лісоўскай).

У час паседжання выступілі М.Дабралюбаў, У. Ліўшыц, Л.Сучкова, В.Неўдах. Яны па-свойму цікава распавядалі аб жыцці і творчасці знакамітай нашай зямлячкі, асобна падкрэсліўшы прывабнасць асобы, якая сыходзіла ад самае паэтэсы. У яе лірычнай творчасці шмат гаварылася пра дабрыню горацкіх жыхароў, прыгажосці нашай прыроды. Гэтыя тэмы глыбока закранутыя ў яе шматлікіх творах.

Хочацца прывесці верш са зборніка «Я чакаю цябе»(1993г.)

**ТЫ ЛЮБІ МЯНЕ**:

Сонца спелае, як сунічына,
Не кранай яго, не кранi.
Ты гукні мяне, ты пакліч мяне,
Ты пакліч мяне, ты пашні
Ты любі мяне.
Ты любі мяне -
Чалавечыху чалавек.
Не рабыняю, не рабінаю,
Не на дзень любі, а навек.
Не рабінаю, не калінаю,
Іх няма каму бараніць.
Ты пяшчотаю апалі мяне,
Мне ніколечкі не баліць.
Мо не станеш ты маёй долаю,
Не загнаць раку у берагі.
Толькі ведаю, што не здолею
Я на свеце жыць без ракі.

Творчая спадчына Нэлі Тулупавай - гэта ў прамым сэнсе слова клопат аб устойлівасці сацыяльна-культурнай сістэмы нашай роднай Беларусі.

**У памяць аб паэтэсе і чалавеку – Нэлі Іванаўне**

***У. Лінькоў.***

## Кантакты Горацкага Грамадскага клуба «УзГорак»

***Рада клуба: Эдуард Брокараў – каардынатар, Наталля Сяргеева, Галіна Будная, Ілля Заранок***

| Назва | Кантактная асоба | Тэлефон | Статус |
|---|---|---|---|
| Асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам | Ала Малашэўская | 21772 | Арганізацыя |
| «Беларускае таварыства інвалідаў» | Капіталіна Землякова | 21772 | Арганізацыя |
| Горацкае прадстаўніцтва РГА «Беларускі хельсінкскі камітэт» | Васіль Таратун | 53197 | Ініцыятыва |
| Горадскае аддзяленне «Фонд імя братоў Луцкевічаў" | Андрэй Зязюлін | 52816 | Ініцыятыва |
| Грамадская арганізацыя «Надзея» | Лідзія Белехава | 21858 | Арганізацыя |
| Грамадская газэта «Дзядзька Несиер» | Дзям'ян Франкоўскі | 21999 | ІП |
| Грамадская жаночая арганізацыя «Любава» | Таццяна Кіраенкава | 25009 | Арганизацыя |
| Горацкае раённае аддзяленнее ГА «Клуб выбаршчыкаў» | Яўген Мажугін | 25906 | Арганізацыя |
| Маладзевае ГА «Рытм» | Тамара Цітова | 54309 | Ініцыятыва |
| Маладзевая юрыдычная ініцыятыва «Фяміда» | Алена Белехава | 54285 | Ініцыятыва |
| Раённая арганізацыя МГА «Грамадзянскі форум» | Глеб Бухавец | 54149 | Арганізацыя |
| Дзіцячая газета "Несиерка" | Ірына Каралькова | 50959 | ІП |
| Спартыўны клуб "Ураджай" БДСГА | Аляксандр Шарстнёў | 21841 | Арганізацыя |
| Горацкая арганізацыя РГА «Таварыства беларускай мовы» | Валянціна Белавусава | 25181 | Арганізацыя |
| Горацкае аддзяленне ГА «Фонд Св. Ефрасіньні Полацкай» | Зоя Бабіна | 53752 | Арганізацыя |
| "Маці супраць наркотыкаў" | Уладзімір Якубовіч | 25586 | Арганізацыя |
| Федэрацыя футбола | Эдуард Брокараў | 21999 | Арганізацыя |

# «Медведь» — первый в Беларуси фонд местного сообщества

***Днем рождения Сморгонского общественного фонда «Медведь» можно считать 29 октября 2002 г., день, когда состоялось учредительное собрание фонда. На нем из числа девяти физических лиц-учредителей был избран исполнительный директор фонда Анатолий МИКИШОВ. Он любезно согласился дать интервью «НР».***

— Анатолий, почему подобный фонд возник именно в вашем городе?

— Сморгонь отличается от других районных городов страны своим высоким уровнем гражданской активности. Горожане положительно относятся к существующим у нас общественным организациям. Необходимость структуры, которая финансировала бы решение социальных проблем исходя из интересов всех граждан, чувствовалась давно. По идее, такой фонд должен основываться не только на ресурсах западных «доноров», но и на средствах местных бизнесменов, возможно, государственных органов. Еще год-два назад явно прослеживалось противостояние между общественным сектором и властью. Поэтому менее вероятным представлялось сотрудничество с властями, без которого подобный фонд был бы невозможен. Сейчас, во многом благодаря Программе Партнерства Альянса Каунтерпарт, ситуация изменилась. Власть нормально воспринимает людей, выступивших инициаторами создания фонда. Немного сложнее с предпринимателями, бизнесменами. Людям трудно объяснить, для чего нужен подобный фонд, но мы работаем в этом направлении. Здесь наша задача - объяснить всем и каждому, что у людей есть уникальный шанс улучшить жизнь в городе и районе через личное участие в формировании структуры фонда и определении стоящих перед ним задач.

— Какова главная цель фонда?

— Сбор местных ресурсов и направление их на решение местных проблем. В первую очередь, социальных.

— Что сделано для популяризации фонда в последнее время?

— 11 ноября проведена встреча с общественными организациями района по вопросу выдвижения претендентов в Правление от общественных организаций, в настоящее время и на протяжении ближайших двух недель проходят встречи с представителями отдельных трудовых коллективов и профсоюзов (всего таких встреч запланировано 12), проходят личные встречи с потенциальными претендентами.

В местной прессе уже прошло несколько публикаций о нашем Фонде, готовится интервью с представителями власти об их отношении к создаваемому Фонду, будет опубликовано положение «О формировании Правления».

Во многом благодаря этому у нас есть девять потенциальных кандидатов в Правление Фонда, которые уже заявили о своем намерении собирать подписи за свое выдвижение. Сбор подписей претенденты начнут 29 ноября, после публикации Положения в прессе. Намеченная дата формирования правления - 15 декабря.

— На основании чего в фонде смогут судить о том, какие проблемы люди считают первоочередными?

— Чтобы выяснить, каковы приоритетные социальные проблемы горожан, мы распространили и собрали заполненными около двух тысяч анкет. На наши вопросы ответили и молодежь, и пенсионеры, и родители, воспитывающие несовершеннолетних детей, и безработные, и служащие, и другие социальные группы. Сейчас идет обработка и анализ полученных результатов. Мы расскажем об итогах анкетирования в средствах массовой информации.

— В чем, по-вашему, уникальность фонда?

— Особенностью нашего фонда и его отличием от уже существующих структур является его опора на реальные нужды и интересы людей. Членом правления может стать любой, кто соберет в свою поддержку 50 подписей жителей города или района и зарегистрируется в комиссии фонда. Зарегистрированные кандидаты будут тайным голосованием выбирать «из самих себя» семерых членов правления. Таким образом, любой, кто хочет влиять на проводимую фондом политику, может попасть в правление фонда.

Фонд не является коммерческой структурой. То есть все средства, поступающие в фонд, идут на реализацию социальных программ в городе и районе. Структура фонда открытая. Ежегодно будут публиковаться отчеты о деятельности фонда, в том числе и финансовые. Работники фонда будут обязаны ответить всем желающим на любой вопрос о том, на что тратятся деньги. Любой человек сможет увидеть и проконтролировать, куда пошли средства.

— Анатолий, каков срок ваших полномочий как исполнительного директора фонда?

— Директором меня избрали учредители фонда на период до момента формирования правления. Для того, чтобы я мог сохранить свои полномочия после регистрации фонда, их должно подтвердить избранное правление. Избрание правления будет первым шагом после официальной регистрации фонда.

***Первые шаги фонда комментирует один из его учредителей Валентина Танеева:***

— На сегодняшний день у нас есть название «Сморгонский общественный фонд "Медведь"» и юридический адрес, согласованные с исполнительной властью, устав и девять учредителей. По словам председателя райисполкома, он приветствует это наше начинание. Все, что мы делаем и делали, делается на волонтерских началах, исходя из наших потребностей и желаний.

До последнего времени работа с бизнесом в стране сводилась к схеме «у богатых заберем и бедным дадим». Поэтому бизнес настороженно относится ко всяким новым структурам. Поэтому вначале мы конкретными делами должны завоевать авторитет в городе, доказать, что делаем нужное и доброе дело, показать прозрачность своей работы. Надеемся, что тогда и сбор средств пройдет успешнее.

***"Новы рэсурс"***

**Что такое Фонд местного сообщества?**

**Не имеющая членства, некоммерческая организация, учрежденная гражданами и (или) юридическими лицами на основе добровольных имущественных взносов, преследующая социальные, благотворительные, культурные, образовательные, или иные общественно полезные цели. (ст.118 Гражданского кодекса РБ)**

**Первый Фонд в мире: США, Кливленд, 1914 год.**

**Первый Фонд в Европе: Великобритания, 1979 год.**

**Первый Фонд в России: Тольятти, 1998 год.**

**На сегодня из стран Восточной Европы такие Фонды существуют в Польше (15 фондов), Болгарии (3), Словакии (10), России (15).**

**«Создай изменения, которые хочешь увидеть» — под таким девизом началась работа фондов местного сообщества (ФМС) в Болгарии.**

# Курочка, несущая золотые яйца

***На сегодняшний день фонды, занимающиеся сбором средств и последующим финансированием решения социально значимых проблем, зарегистрированы в трех болгарских городах — Чепеларе, Габрово и Благоевграде.***

Несмотря на то, что в Чепеларе проживает всего 5000 человек, а в Габрово и Благоевграде - по 80 тысяч, предпосылками для благоприятного развития ФМС во всех городах были развитый бизнес, общественные организации и существование традиций благотворительности в досоветский период. Когда-то в этих городах были известные люди, на частные пожертвования которых строились здания школ, храмов, дома культуры (читалища).

Counterpart помогает Болгарии в создании ФМС с ноября прошлого года в рамках проекта «Фонды местного сообщества и социальные предприятия». Молодая и энергичная менеджер проекта "Общественные фонды" Моника Писанканева нашла деятельных координаторов в каждом из трех городов. Те, в свою очередь, «заразили» идеей ФМС группы энтузиастов. Так образовались координационные комитеты, которые и привели фонды к регистрации. Counterpart взял на себя административное содержание офиса ФМС на период до регистрации фондов, а также профинансировал изготовление информационных материалов, проведение социологического исследования и иную техническую поддержку. Но самое главное — Counterpart удваивает средства, которые фондам удается собрать в своих городах.

Препятствия на пути развития болгарских ФМС напоминают ситуацию в Беларуси. Мало того, что в обеих странах люди не знакомы с принципом ФМС, они мало знают о деятельности общественных организаций вообще. НКО зависят от внешних денежных источников, они терпят неудачи в привлечении местных финансов и не привыкли отчитываться в использовании средств. Собственник фабрики по производству лыж в Чепеларе ежегодно жертвует муниципалитету 20 тыс. долларов. Однако в сложной экономической ситуации, на фоне людской бедности закон не стимулирует корпоративных и индивидуальных «доноров». Еще совсем недавно некоторые благотворители думали, что пожертвование - это дополнительная форма налогообложения.

Мэры Чепеларе и Габрово были счастливы узнать, что их города выбраны площадками для реализации международного опыта. Но при создании ФМС было важно не только заручиться поддержкой властей, но и найти «правильных» людей, готовых работать, полагаясь не только на рекомендации мэров. Созданные координационные комитеты из 12—15 человек по своему составу были своего рода «фотографиями» местных сообществ.

Интенсивная кампания информирования населения велась не только через СМИ, но и путем обычных разговоров с людьми. Социологическое исследование в трех городах показало, что жителей волнуют примерно одни и те же проблемы - безработица, бедность, здравоохранение. Чтобы выбрать наиболее важные проблемы, члены координационного комитета собирали фокус-группы из 15—20 человек. Фокус-группы также помогли определить, кого следует пригласить на общественный форум - самое значительное мероприятие до регистрации ФМС. Около ста участников общественных форумов в Чепеларе и Габрово приняли решения о приоритетах для своих ФМС, о цели первой кампании сбора средств и о размере суммы, которую нужно собрать.

Например, в маленьком Чепеларе приоритетными были выбраны развитие спорта и туризма, улучшение городской и сельской среды, образование и культура. В мае этого года здесь прошла первая кампания по сбору средств на установку экономичного уличного освещения. Цель улучшить освещение улиц была хороша своей конкретностью, достижимостью в течение одного - трех месяцев и тем, что результат будет замечен всеми горожанами.

Сбор наличных средств начали 24 мая, в День славянской письменности и культуры. Этому предшествовала двухнедельная информационная кампания. Просьба к горожанам жертвовать средства звучала по местному кабельному ТВ. Перед телекамерами внес свой личный денежный взнос мэр Чепеларе. Город украшали плакаты с изображением лампочки, такие же наклейки, флайеры, стикеры, постеры получали жители на улицах. Группы студентов - сборщиков средств соревновались между собой. Трое сборщиков обошли с копилкой местные рестораны. В одном из них сборщикам вручили 100 левов, собранных посетителями в ожидании прихода волонтеров. Публичный подсчет собранных средств (в т.ч. по купюрам), состоявшийся вечером в муниципалитете, показал: за один день 40 волонтеров собрали около 2000 левов (примерно 1000 долларов США).

Для сбора средств крупных благотворителей важен был индивидуальный контакт. Мэр организовал для них коктейль, что стало его личным взносом в кампанию. За три месяца в Чепеларе было собрано 40 тысяч левов, 30 из которых выделил муниципалитет.

После «освоения» собранных средств жителей Чепеларе попросили ответить на вопросы анкеты:

1) Заметили ли вы, что улучшилось освещение в городе? (Варианты ответов: да, нет, не обратил внимания).

2) Знаете ли вы, что средства привлечены ФМС?

3) Жертвовали ли вы деньги? Если нет, то почему?

4) На что бы вы дали деньги при проведении следующей кампании?

Кампания показала: что именно сбор средств фонда в собственном сообществе помогает людям поверить, что они действительно в силах решать местные проблемы. ФМС должен активно продвигать свои цели и достижения в глазах тех, от кого он хотел бы получать деньги. Для доверия и поддержки важна прозрачность и отчетность действий.

Сбор средств проходил до момента регистрации фонда, что сделало неопределенным положение собранных средств. Это лишний раз убедило создателей фонда в том, что ФМС должен быть полноценной организацией с собственной миссией, видением, целями, органами и механизмом оценки.

В планах Counterpart/Болгария - продолжать оказывать методическую и техническую помощь трем уже существующим и еще двум будущим фондам, предоставить трем ФМС гранты, содействовать созданию ассоциации фондов — своеобразному ресурсному центру и инициатору изменений в законодательстве. Counterpart считает важным также помочь ФМС в привлечении дополнительных средств и других внешних ресурсов для софинансирования проектов фондов. Он намерен объединять усилия по обмену опытом и созданию партнерских отношений с другими организациями, работающими в области мобилизации общественности.

***"Новы рэсурс"***

**Газета УзГорак**

**Рэдактар** - Эдуард Брокараў, **тэхнічны рэдактар** - Дзям"ян Франкоўскі. Надрукавана ў КПУП «Аршанская друкарня» г.Орша, вул. Замкавая, д. 3. Заказ 0000; выпуск-2, ад 14.02.2003 г. фармат А-3 на 4 палосах. Наклад -299 ас. Адрас рэдакцыі: г. Горкі, зав 2-гі Магілёўскі, д. 1.

E-mail: dnescer@tut.by